


Яраслаў Смелякоў

## ЭЛЕГІЧНЫ ВЕРШ

Вам не здарылася ўкахацца —
магчыма — не, тады шкада, —
у час, як вам прабіла дваццаць,
а ёй пад сорак год бадай?

І калі гэткае трапляла,
ты ўсё жыццё не забываў,
як паспяшаючы кахала,
а ты без памяці кахаў.

Калі ж мы болей не шукалі
у іх адказу на пагляд,
яны нас моўчкі адпускалі
і не варочалі назад.

А ўчора, хмурны, стаўшы з краю,
смуціў я ў нейкай зале зрок:
там безнадзейная старая
была між маладых жанок.

І тут, хоць гэта ў даўнім стылі,
у характва жывым віры,
мяне, як громам, аглушылі
адбіткі паўзабытых рыс.

Іду да вас праз тлум лайдачны,
як на пагаслую зару,
і, нахіляючыся ўдзячна,
нічога вам не гавару.

І слодыч я, і муку чую,
пазбыўшы смуткі ўсе датла,
руку старэчую цалую,
што белай ручкаю была.

*З рускай пераклаў М. Лужанін*





# Ніва

Тыднёвік Беларускага грамадска-культурнага таварыства

№ 52 (983) ГОД XIX 29 СНЕЖНЯ 1974 г. ЦАНА 60 гр.


РЭПАРТАЖ З ПАГРАНІЧНАЙ ВЁСКІ РАКАВІЧЫ




Вёска Ракавічы дзвюма вуліцамі, сапраўды быццам рак, упаўзае ў высокія ўзгоркі. Ужо некалькі кіламетраў раней на шашы, што спалучае Аўгустоў з Гроднам, асцерагальная чырвоная табліца папярэдзіла мяне, што знаходжуся ў прыгранічнай зоне. Недзе тут зусім недалёка канчаецца Польская Народная Рэспубліка і пачынаецца Савецкі Саюз. Дык еду праз Ракавічы памалу, асцярожна, каб з разбегу не апынуцца за мяжой без замежнага пашпарта. Вось яшчэ адна табліца на абочыне вясковай вуліцы вялікімі яркімі літарамі на польскай мове абвяшчае: **„Дзяржаўная граніца. Пераход забаронены“.** Стаю перад гэтай таблічай і разгублена азіраюся вакол сябе.




Метраў 100 перада мною нейкія людзі разбіралі старую хату. Я запытаў у іх пра солтыса.

— Ён жыве на канцы вёскі, — адказалі яны мне. Я з недаверам зноў паглядзеў на табліцу з надпісам **„Дзяржаўная граніца“.**

— А там яшчэ Польшча? — запытаў я сялян. Яны дружна засмяяліся, а старэйшы вусаты гаспадар змерыў мяне дапытлівым позіркам і адазваўся на польскай мове з моцным усходнеславянскім акцэнтам.

— Савецкі Саюз пачынаецца вунь там — за гаем.

— А ці ходзіце ў госці да суседзяў на той бок? — паказаў я сцяну густога бярозавага лесу.

— На вяселлі, на хрэсьбіны, або з нагоды нейкага свята — то пускаюць, — паясніў дзядуля. — Толькі трэба браць пропуск у пагранічнікаў.

— Дык як мне дабрацца да солтыса?

Ад солтыса Язэпа Брэнды даведаўся я, што ў Ракавічах жыве 84 сям'і, у якіх налічваецца 403 асобы. Значыць, на адну сям'ю прыпадае ў сярэднім амаль па 5 чалавек. Сто год таму назад у Ракавічах пражывала на 30 сем'яў менш. Вёска тады ўваходзіла ў састаў вялікага маёнтку Лабна, уласнікам якога быў Аляксандр Свечын. Гэта быў нейкі высокі царскі чыноўнік, якому за выключныя заслугі імператар падараваў гэты маёнтак у 1836 годзе. Звыш 40 тыс. гектараў зямлі. Ад Гродна аж па Аўгустоў. Тысячы сялянскіх душ былі залежныя ад яго волі.

— Чым цяпер займаюцца жыхары вашай вёскі? — пытаю солтыса Ракавіч.

— Тут прамысловасці няма, — гаворыць солтыс, — дык нашы сяляне займаюцца выключна хлебаробствам, а перш за ўсё жывёлагадоўляй і вырошчваннем тытуню. Тытунь дае даволі высокі даход, але патрабуе многа цяжкай працы. Дык маладыя ўцякаюць у горад. У мяне самога двое старэйшых сыноў паехалі на „лягчэйшы“ хлеб, а дома асталася толькі дачка, вучаніца 8-га класа.

— А што робіце пасля працы, вечарамі, або ў святочныя дні?

— Глядзім тэлевізар, ідзем у клуб, які змяшчаецца ў школе, сушым тытунь, або гуляем у карты.

Ракавіцкага клуба не ўдалося мне наведаць, бо якраз быў закрыты. Затое пагутарыў з уласнікам першай у Ракавічах мураванай аборы на 20 кароў. Такі кароўі палац пабудаваў сабе Станіслаў Касцюшка — уласнік 16-гектаравай гаспадаркі.

— У мяне здарылася няшчасце, — сказаў ён. — Згарэў стары хлеў і клуня. Дык рашыў пабудаваць сабе хлеў новы, мураваны... Хачу спецыялізавацца ў жывёлагадоўлі.

На развітанне з Ракавічамі зайшоў я яшчэ ў мясцовую школу. Яна вялікая, мураваная, пабудаваная 10 гадоў таму назад з разлікам на поўную праграму

(Працяг на стар. 4)

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „Ніве“



## НЕ ТОЛЬКІ БОЛЬШ ХЛЕБА...

Калі я заглянуў на базу сельскагаспадарчага гуртка ў **Залуках,** што ў Беластоцкім павеце, у паветры кружыліся першыя ў гэтым годзе сняжынкі. На палях Залукаў і суседніх вёсачак яшчэ тарахцелі трактары, занятыя нялёгкім у гэтым годзе ворывам на зіму. Іншыя машыны пасля цяжкага сёлетняга сезону ўжо былі дагледжаны і пастаўлены ў строгім парадку на зімовы адпачынак. У майстэрні людзі тупалі пры маляванні раскідальнікаў угнаенняў, размяшчалі ў гаражы малацільныя агрэгаты, што вярнуліся з вёсак пасля закончанай малацьбы.

— Год быў нялёгкі, але нашыя трактарысты пастараліся і з палявымі работамі ў пару ўправіліся, — кажа старшыня гуртка **У. Паплаўскі.** — Асабліва не шкадавалі свае працы і на сялянскіх палетках і на гуртkоўскім полі брыгадзір **Р. Паплаўскі,** трактарысты **Т. Альшэўскі, А. Літвін, С. Базылюк, У. Паплаўскі.**

— А што на будучы год?

— Машынны парк маем нязгоршы:



*Перад тым, як машына мае стаць на зімовы адпачынак, брыгадзір Рыгор Паплаўскі старанна тупае каля яе з малярскім апаратам.*

12 трактараў з камплектамі машын, 2 збожжавыя камбайны, 9 малатарняў і шэраг іншых прыладаў, разам маёмасці на якія тры мільёны злотых. У апрацоўцы зямлі і зборы ўраджаю мы ўжо моцна стаім на нагах. Але гэтага нам мала. Цяпер трэба з кожнага гектара здабываць не толькі больш хлеба, але і мяса. Апрача работ на сялянскіх гаспадарках, мы апрацоўваем 117 га з дзяржаўнага фонда зямлі. У будучым годзе ў выніку камасацыі прыбудзе нам яшчэ 80 га. Дагэтуль у асноўным сеялі на гуртkоўскіх палях жыта, авёс, лубін, і толькі на 12 га садзілі бульбу. Гадоўляй не займаліся. Цяпер жа вырашылі ўзяцца і за гэтую справу. Набліжаецца к канцу прыстасаванне коштам 640 тысяч злотых паслякааператыўнай аборы на свінаферму. У ёй будзем гадаваць каля 80 пародзістых мацёраў. Парасят жа на далейшую адкормку будзем накіроўваць на фермы ў Камянцы, Рафалаўцы, Новай Волі.

— Ці пад сілу гэта вашаму гуртку?

— А чаму ж не? Ужо адводзім большую плошчу зямлі пад вырошчванне бульбы, засеем іншыя кармавыя расліны на зялёны корм і на квашанку. Паклапоцімся пра адпаведны догляд. Людзі ў нашай ваколіцы маюць добрыя вынікі ў гадоўлі свіней, вопытныя. Такая гадоўля нам вельмі на руку. Яна будзе карысна ўздзейнічаць на змену севазвароту і ўраджайнасці. Гуртkоўскай зямлі патрэбны натуральныя ўгнаенні, звычайны гной, а ён будзе ў нас і гэта таксама надта важна для рацыянальнай гаспадаркі.

Калі я выходзіў з брамы базы, наваколле ўжо бялела ў мяккім зімовым покрыве, з снегапад не сунімаўся. І ўсё ж ўпартыя залуцкія трактарысты не пакідалі поля — наперакор зіме яны аралі, кладучы добры залог пад будучы ўраджай.

**Ігнат Снарскі**
**Фота аўтара**




# Харчовая гаспадарка Беласточчыны

XV Пленум ЦК ПАРП упершыню ў гісторыі комплексна разгледзеў справы, звязаныя з харчаваннем народа. Гэта гаворыць не толькі аб чыста эканамічных ці біялагічных справах, але перш за ўсё аб высокай гуманнасці — усё для чалавека і для грамадскасці. Упершыню справы харчавання звязаны з цэласцю народнай гаспадаркі, таму што вымагае гэтага сітуацыя. Цяпер мала таго, што сельская гаспадарка дае многа свіней ці рагатай жывёлы. Для перапрацоўкі мяса трэба будаваць мясакамбінаты, халадзільныя заводы, для малака — малачарні. Для інтэнсіўна развіваючайся сельскай гаспадаркі патрэбны машыны, хімікаты, будаўнічыя матэрыялы і г.д. І так гэта пастаўлена ў праграме, прынятай XV пленумам партыі. Адным словам, удзел у харчовай гаспадарцы прымаем мы ўсе і кожны паасобна.

Наша ваяводства мае сваю праграму, якая з'яўляецца творчым развіццём цэнтральнай праграмы. З асноўнымі напрамкамі гэтай праграмы і хочам пазнаёміць нашых чытачоў.

### ЗРОБЛЕНА МНОГА

Усебаковыя дзеянні як партыйнага, так і адміністрацыйна-эканамічнага характару дазволілі хутчэй развіваць і інтэнсіфікаваць сельскую гаспадарку ваяводства. Ужо ў 1973 г. дасягнуты вынікі, якія планавалі дасягнуць у 1975 г. Датычыцца гэта чатырох збожжавых культур, бульбы, сена, а таксама колькаснага стану свінагадоўлі, прадукцыі свінамяса і малака.

Аднак не ўсе галіны сельскай гаспадаркі развіваюцца правільна, а наша практычная дзейнасць мае яшчэ многа хібаў. Павольна развіваецца жывёлагадоўля, ёсць недахопы ў кармавой гаспадарцы, часамі няправільна выкарыстоўваецца зямля, недастаткова развіваюцца паслугі і бытавое абслугоўванне вясковага насельніцтва. Ілюстрацыяй такога стану з'яўляецца факт, што на Беласточчыне больш 30 прац. гаспадароў мае горшыя вынікі, чым сярэдняя ваяводства.

У нашай гаспадарцы ёсць яшчэ вялікія рэзервы.

### ХОЧАМ МЕЦЬ

Да 1980 г. на Беласточчыне плануецца дасягнуць прынамсі такога ўраджаю з 1 гектара: збожжа — 28 цэнтнераў, бульбы — 250, цукровых буракоў — 380.

У той жа час на кожныя 100 гектараў угоддзяў павінна ў сярэднім быць: 72 штукі быдла, 132 свінні і 28 авечак.

У матэрыялах пленума ВК ПАРП гаворыцца, што вышэй указаныя паказчыкі — гэта мінімальная колькасць.

### ЖЫВЁЛАГАДОЎЛЯ НАЙВАЖНЕЙШАЯ

Натуральныя ўмовы ваяводства спрыяюць развіццю жывёлагадоўлі. Гэтаму павінна быць падпарадкавана і раслінная прадукцыя. Ёсць вялікія магчымасці развіцця жывёла- і свінагадоўлі, авечак і дамашняй птушкі. Зразумела, напрамак жывёлагадоўлі будзе залежыць ад спецыфікі данага раёна. Там, дзе больш зялёных угоддзяў, будзе развівацца гадоўля быдла і авечак, а ў раёнах, дзе гаспадары больш садзяць бульбу — свінагадоўля.

Праз 4 гады на Беласточчыне хочам мець мільён быдла. Каб гэта выканаць, неабходна звярнуць увагу на некалькі спраў:

- на дапамогу гаспадарам у вядзенні спецыялістычных гаспадарак;
- на ўласцівую гаспадарку жывёлагадоўчым матэрыялам пароды „Нцб" з уласнай гадоўлі, а таксама з паставак, якія прыходзяць з-па-за ваяводства;
- на паправу якасці інсемінацыі, у тым ліку на лепшае выкарыстанне бычкоў мясной пароды.

Каб палепшыць якасць свінагадоўлі ў ваяводстве, рэкамендуецца, каб пастаўкамі племяннога матэрыялу займаліся дзяржаўныя і калектыўныя фермы, уладальнікі якіх маюць высокія прафесіянальныя кваліфікацыі. Надалей будзе развівацца адкормліванне свіней у ПГР-ах і цэнтрах сельскагаспадарчых гурткоў. Важную ролю ў гэтай галіне павінна адыграць каардынацыя з індывідуальнымі гаспадарамі.

Дзяржава дае фінансавую ўспамогу ў матэрыялах калектывам гаспадароў, якія супольна будуюць вялікія інвентарскія памяшканні або мадэрнізуюць існуючыя. Важна таксама, каб уводзіць спецыялізацыю ў цэлай вёсцы або ў большасці гаспадарак данай вёскі. Тады магчымым будзе каапераванне, а працу можна лепш механізаваць і лепш выкарыстоўваць абсталяванне.

**Апрацаваў Аляксей Карпюк**




■ 12 снежня з удзелам намесніка старшыні ГП БГКТ Георгія Валкавыцкага (галоўнага рэдактара тыднёвіка „Ніва") адбылося пасяджэнне прэзідыума праўлення беластоцкага павятовага аддзела. На ім былі абмеркаваны наступныя справы: 1) падрыхтоўка да песеннага і тэатральнага конкурсаў БГКТ, 2) інфармацыя аб аплочванні членскіх складчын, 3) ацэнка дзейнасці аддзела за гэты год, 4) зацвярджэнне 17 новых членаў БГКТ.

■ 13 снежня прэзідыум гданьскага аддзела БГКТ разгледзеў гадавую справаздачу аб дзейнасці аддзела і зацвердзіў галоўныя напрамкі працы на 1975 год. Прысутны на гэтым пасяджэнні старшыня ГП БГКТ Мікалай Самоцік у сваім выступленні станоўча ацаніў працу аддзела і расказаў прысутным аб тых справах, якімі жыве БГКТ на Беласточчыне.

■ У вёсцы Дарожкі (Беластоцкі павет) 13 снежня цікава прайшоў аўтарскі вечар Сакрата Яновіча.

■ Мастацкі калектыў гарадскога аддзела БГКТ у Беластоку „Каласкі" 14 снежня выступаў у рэстаране „Гродна".

■ 15 снежня ў памяшканні ГП БГКТ пад старшынствам Юркі Туронка адбылося пасяджэнне навуковага гуртка БГКТ, на якім была зроблена ацэнка навуковага зборніка, выдадзенага супольна з БТН-ам; была абмеркавана таксама праблематыка наступнага навуковага зборніка.

■ Гарадскі аддзел БГКТ у Беластоку рыхтуецца да навагодняга балю, які кожны год арганізоўваецца для членаў нашага таварыства.

■ Паасобныя аддзелы БГКТ і іх штатныя працаўнікі прыкладаюць шмат намаганняў, каб да канца года як найбольш нашых членаў аплаціла складчыны за 1974 год, каб члены БГКТ выканалі адзін з галоўных статутовых абавязкаў. (мх)




# НОВЫЯ ЎРАЖАННІ

Амаль увесь дзень 23 ліпеня плылі па Обі. А $16^{00}$ судна прыплыло да прыстані ў Нефцеюганску.

Геолагі прыйшлі сюды ў 1961 г. Раней мясцовасць называлася Уст-Балык. Жылі ў ёй людзі з племя ханты. Ханты не цікавіліся ні тэхнікай, якую прывезлі сюды геолагі, ні іх заняткамі. У большасці пакінулі Уст-Балык і рушылі ў глыбіню тайгі. Некаторыя з іх, аднак, засталіся і прыстасаваліся да новых умоў жыцця.

Нефцеюганск развіваецца вельмі хутка. Зараз жыве тут 38 тысяч людзей, каля шасці тысяч вучняў, ёсць дзве дзесяцігодкі, адна пачатковая школа, інтэрнат. У інтэрнатах жывуць у асноўным дзеці ханты. Пачаткова яны вучацца горш, чым дзеці іншых нацыянальнасцей. Узровень, аднак, даволі хутка выраўноўваецца.

Нефцеюганск акружаны непраходнымі балотамі. Вясной можна да яго толькі даплыць ракой або даляцець на верталёце.

Едзем туды, дзе здабываюць нафту. Едзе з намі начальнік мясцовых нафтавікоў інжынер Юры Вяршынін. Гаворыць, што Нефцеюганскае месцазнаходжанне нафты „малое" — 7 на 15 кіламетраў. Дае яно 47-48 тыс. тон нафты ў суткі. Мясцовая нафта вельмі добрая. Дагэтуль прабіта 340 скважын. З 220 ужо здабываецца нафта. Дагэтуль нафту высылалі баржамі, і гэта вельмі абмяжоўвала яе здабычу. Цяпер пабудавалі трубаправод, і нафта плыве ім без перапынку і без абмежаванняў.

Нашы аўтобусы даўно ўжо выехалі з горада. Едзем праз тайгу і балоты. Абапал дарогі вялікая зялёная трава, ніхто яе не косіць. Вяршынін гаворыць, што калі б чалавек увайшоў у гэтую траву, адразу заграз бы ў дрыгву да галавы, а можа і з галавой.

Пад'язджаем да станцыі насосаў. Яны цягнуць ваду з глыбіні 1700 метраў, а пасля машыны пхаюць гэтую ваду на глыбіню 2500 метраў, туды, дзе ёсць нафта. 9.000 кубаметраў вады ў суткі заганяюць машыны ў 16 скважын. Навошта? Справа ў тым, што нафта сама, без якой-колечы дапамогі, плыве з зямлі 2-3 гады. Пасля сіла патока аслабляецца. Загнаная ў пласт вада вымывае з яго нафту і паднімае яе наверх. Зразумела, што ідзе вада на паверхню разам з нафтай і трэба яе аддзяліць.


*Прыстань у Нефцеюганску.*

Сядаем зноў у аўтобус і едзем у раён велізарных алюмініевых бакоў-рэзервуараў. Пачынаю іх лічыць: 10, 20, кідаю. Даведваемся, што ў кожным з гэтых рэзервуараў 3.500 тон нафты. На станцыі кантролю прыплыву нафты маладая дзяўчына. Штосьці там націскае, штосьці перасоўвае і, відаць, спраўляецца з магутнай ракой нафты.

Ворагамі нафты з'яўляюцца соль, сера, газ і вада. Вось тут нафта абяссольваецца, аддзяляецца ад вады і газу, а пасля ўжо трубаправодамі — і гайда ў Еўропу. Між іншым, і ў Польшчу.

Інжынер гаворыць, што нафты хопіць у Нефцеюганскім месцазнаходжанні на 50-60 гадоў, а пасля трубы пойдуць да іншых нафтавых вытокаў, якіх тут многа.

Вечарам — сустрэча з насельніцтвам у мясцовым Доме культуры. Чытаю свае вершы на беларускай мове. На заканчэнне чытаю верш, які напісаў на судне ўчора на рускай мове „Моя Сибирь". Скончыў. Доўгая авацыя. Сядаю. Авацыя не сціхае, зноў устаю. Стаю, а воплескі не моўкнуць. Сам не ведаю, што рабіць, сядаць ці стаяць? Урэшце Дудзін ратуе сітуацыю. Як гаспадар сустрэчы, ён пачынае гаварыць, зал моўкне. Сядаю, чую пад кашуляй вільгаць поту.

У $23^{30}$ „Ленінскі камсамол" адгукаецца трыма гудкамі, некалькімі тактамі музыкі і адплывае ў далейшую дарогу ў прастор начной Обі. Яшчэ ў межах горада прыстаў да нашага судна нейкі смяльчак па маторнай лодцы. Спачатку рабіў даволі вялікія кругі вакол нашага судна. Пісьменнікі прыемна махалі яму рукамі і крычалі: „Маладзец!" Пасля смяльчак пачаў завужваць кругі. Яго лодка ляцела на судна і толькі каля самага барта паварочвала ад яго. Яшчэ момант, і лодка ўрэжацца ў „Ленінскі камсамол". Мяняецца настрой пасажыраў. Пачынаюць лаяць прычэпу і крычаць яму: „Дурак!". Выплываем за горад, няма святла, цёмна. „Маладзец" і „дурак" адстаў нарэшце. Усе супакоіліся і пайшлі спаць.

**А. Барскі**




**Niedziela 29.XII.** 6.30 Tech. Rol. Fiz. 7.00 Bot. 7.35 Kurs Rol. 8.10 Przyp., radz. 8.20 Now. w domu i zagr. 8.45 Bieg po zdrowie. 8.55 Pr. dnia 9.00 Teleranek. 9.40 W pustyni i w puszczy — film. Odc. III. 10.40 Antena. 11.00 W co się bawić — film dok. rum. 12.20 Dziennik. 12.40 Na chłopski rozum. 13.10 Śpiewa B. Paprocki. 13.25 Nie tylko dla pań. 13.50 Lektury Pegaza. 14.05 Dla dzieci. 14.45 Los. Toto-Lot. 15.00 Pr. rozr. 16.00 Sport. 17.00 Progi i bariery. 18.10 Reportaż. 19.15 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Bajka dla dorosłych. 20.30 Musisz to wypić do dna — film TVP (Droga) odc. I. 21.25 Co kto lubi. 22.15 Sport.

**Poniedziałek 30.XII.** 12.45 Tech. Rol. Fiz. 13.25 Upr. rośl. 15.55 Nurt — Nauki polit. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Zwierzyniec. 17.30 Polska w oczach świata (NRD). 17.55 Kur. Maz. 18.10 Auto-humor. 18.25 Kr. Warsz. i Maz. 18.45 Szare na złote. 19.10 Wyst. amb. Rep. Kub. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Teatr TV: W. Szekspir — Romeo i Julia. 22.05 Świat 1974 roku. 22.50 Dziennik. 23.05 Oferty.

**Wtorek 31.XII.** 6.30 Tech. Rol. Fiz. 7.00 Upr. rośl. 12.45 Tech. Rol. J. pol. 13.25 Chem. 15.50 Pr. dnia. 15.55 Przyp., radz. 16.00 Dziennik. 16.15 Dla dzieci. 16.45 Życiorys Kaczora Donalda — film (Disneyland) 17.40 Dla mł. widzów. 18.10 Debiuty roku — pr. red. sport. 18.40 Pr. rozr. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.00 Przemówienie Noworoczne. 20.15 Muzyka pol. 20.35 Pr. Sylwestrowy.

**Środa 1.I.1975** 8.55 Pr. dnia. 9.00 W pustyni i w puszczy. — film. Odc. IV — ostatni. 10.00 Widowisko reg. w wyk. kolędników. 10.30 Sport 1974. 11.40 Rep. film. 11.55 Dziennik. 12.15 Koncert Noworoczny z Wiednia. 13.35 W starym kinie: Tarzan i łowcy zwierząt. 14.50 Los. Mał Lot. 15.00 Dla dzieci: H. Januszewska — „Kopciuszek". 15.40 Przeboje roku. 16.30 Szare na złote. 17.00 Sport. 18.10 Bal Pegaza. 19.15 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Bajka na dobr. 20.35 Rio Bravo — film fab. USA. 22.50 Sport.

**Czwartetk 2.I.** 9.00 Dla szkół: (kl. VIII—I lic.) Przysp. obr. Obrona przeciw poż. 10.00 Sztylet wyobraźni — film USA (Columbo) 13.45 Tech. Rol. Mat. 14.30 Upr. rośl. 15.05 Mat. w szk. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Ekran z bratkiem. 17.40 Spotkania z klawes. A. Stasierską. 18.00 Kr. Warsz i Maz. 18.20 Spot. z medycyną. 18.55 Test — Sł. Ekon. 19.10 Przyp., radz. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Sztylet wyobraźni — film USA (Columbo). 21.55 Godzina 0. 22.25 Rewia Leningr. 23.10 Dziennik. 23.25 Sport.

**Piątek 3.I.** 6.30 Tech. Rol. Mat. 7.00 Upr. rośl. 9.15 Musisz to wypić do dna — film TVP (Droga). 10.10 Arsen Lupin. 11.05 Dla szkół: (kl. II) Uwaga, niebezpiecz. 12.45 Tech. Rol. J. pol. 13.25 Hod. zwierz. 13.55 Politechnika. Kurs przyg. Mat. 15.25 Pr. dnia. 15.30 Sport. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla dzieci. 17.15 Turyst. i wyp. 17.40 Por. Mł. 18.00 Przew. Mł. Tur. 18.20 Kr. Warsz. i Maz. 18.40 Co się komu śni? (Fakty, op. hip.). 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Guillaume Apollinaire — widowisko poet. 21.15 Panorama. 21.55 Sport. 22.10 Dziewczęta z Osaki — jap. pr. rew. 22.55 Dziennik.

**Sobota 4.I.** 6.30 Tech. Rol. J. pol. 7.00 Hod. zwierz. 10.00 Czekamy na Ciebie — film fab. ZSRR. 13.45 Tech. Rol. Bot. 14.20 Mech. rol. 14.50 Pr. dnia. 14.55 Pr. I prop. 15.10 Red. sz. zap. 15.20 Kr. Warsz. i Maz. 15.40 Tel. Inf. Wyd. 16.00 Dziennik. 16.10 Sobótka. 16.35 Z kamerę wśród zwierz. 17.10 Harc. popołudnie. 18.00 Światłoczuły notatnik. 18.30 Pegaz. 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.20 Goya — film NRD—ZSRR. 21.25 Dziennik. 21.45 Sport.




**Białowieża** I pozdrawiam jaskółki — czes. 31.XII—1.I. Kwiaciarka — koreańs. 2—3.I. Kes — ang. 4—5.I.

**Czeremcha** Helga — RFN 4—5.

**Czyże** Motocross — czes. Prawo gwałtu — USA 1—5.I.

**Dubicze Cerkiewne** Ned Kelly — USA. Piekło i niebo — pol. 1—5.I.

**Gródek** Gniazdo — pol. 4—5.I.

**Kleszczele** Podróż za jeden uśmiech — pol. 31.XII.—1.I. Wdowa Coudero — franc. 2—3.I. Babie lato bułg. 4—5.I.

**Michałowo** Helga — RFN 31.XII.—1.I. Oszukany — USA 2—3.I. Dekada strachu — franc. 4—5.I.

**Mielnik** W kręgu zła — franc. 1.I. Mrowisko — węg. 4—5.I.

**Milejczyce** Lekcja odwagi — czes. 31.XII—1.I. Ostatni nabój — rum. 2—3.I. Rodeo — USA 4—5.I.

**Narew** Był sobie glina — franc. Na niebie i na ziemi — pol. 1—5.I.

**Narewka** Potop — pol. cz. I 1—5.I.

**Nurzec** Wydra pana Grahama — ang. 31.XII—1.I. Żółtodziób — radz. 2—3.I. Wiosna panie sierżancie — pol. 4—5.I.

**Orla** Niewygodny kochanek — franc. Ostatni po Bogu — pol. 1—5.I.

**Rajsk** Echa dawno minionych dni — radz. Bułeczka — pol. 1—5.I.

**Suchowola** Trzy orzeszki dla kopciuszka — czes. Wybacz i żegnaj — radz. 1—5.I.



B.Z.Graf. zam. 3541 O-3

 

(Працяг са стар. 3)

## МАР'ЯН ПЕЦЮКЕВІЧ



цаваў ад 1956 года па 1971 год. У сваёй этнаграфічнай працы асабліваю ўвагу звяртаў на вывучэнне народнай культуры беларускага асяроддзя на Беласточчыне. Доказам гэтага з'яўляюцца каштоўныя экспанаты беларускай матэрыяльнай культуры, якіх звыш тысячы сабраў на Беласточчыне і навукова апрацаваў для музея ў Торуні М. Пецюкевіч. Напісаў ён таксама сцэнарый да пастаяннай выстаўкі ў гэтым жа музеі. У Торуньскім музеі М. Пецюкевіч лічыўся спецыялістам па Беласточчыне. Часта ён выступаў з дакладамі аб матэрыяльнай культуры беларускага насельніцтва ў Польшчы. Многа этнаграфічных матэрыялаў апублікаваў на старонках „Нівы".

М. Пецюкевіч мае вялікія навуковыя дасягненні ў галіне этнаграфіі. Апрацаваў ён шмат апытальнікаў: адносна пахавальных звычаяў і памінальных дзён (1932 г.) народнага адзення і абутку (ГП БГКТ, 1959 г.), апрацоўкі ільну і канопляў (1963 г.) і інш. Шмат навуковых прац апублікаваў у этнаграфічным часопісе „Люд" у органе Польскага людазнаўчага таварыства. У „Беларускім навуковым зборніку" ў Беластоку публікавалася абшырная праца М. Пецюкевіча „Матэрыяльная культура Сакольскага павету". З'яўляецца ён таксама аўтарам кніжкі „Традыцыйная апрацоўка валакняных раслін ў паўночнай Польшчы", выдадзенай Этнаграфічным музеем у Торуні.

Будучы на пенсіі, нягледзячы на свае семдзесят гадоў, многа працуе. Падрыхтоўвае ён абшырную этнаграфічную манаграфію сваёй роднай вёскі Цяцеркі.

**Віктар Швед**

## ЗАБЫТЫЯ ЎЛАДАМІ

Пра Круглы Лясок, што ў Міхалоўскай гміне, самі жыхары гавораць, што забыты ён крыху ўладамі. Але не забыты гісторыяй. Тут людзі актыўна змагаліся за народную ўладу, дапамагалі партызанам, гінулі з рук захопнікаў. Людзі жывуць тут сённяшнім днём, яго справамі, клапоцяцца пра развіццё сваёй вёскі.

У сяле даўно існуе пачатковая школа: даўней сямікласная, а зараз васьмікласоўка. У школе вучаць чатыры настаўнікі. Школа гэтая, як на сённяшні дзень, не зусім адпавядае патрэбам. Яна маленькая. Але сюды ходзяць дзеткі з навакольных лясных вёсак і хутароў.

Малы і старэнькі будыначак ніколі не змяшчаў усіх класаў. Трэба было наймаць прыватныя памяшканні, у якіх вучыць было цяжка. Людзі ведалі, што цяжка будзе дабіцца тут пабудовы новай школы.

Паехалі ў Беласток, расказалі пра свае клопаты, і гарадская рада прыдзяліла ім бясплатна два цалкам добрыя дамы, прызначаныя на знос. На наступны дзень раненька адправіліся старэйшыя і малодшыя ў Беласток. Выбралі найбольш падыходзячыя будынкі і пачалі іх разбіраць. Транспарт, таксама бясплатна, дала ім ВСТВ. Адразу ўсяго не ўдалося перавезці, трэба было астацца ў Беластоку і пільнаваць, каб не парасцягвалі. Яшчэ сёння Лявон Казбярук памятае, як начаваў з сябрам у кабіне бульдозера, што стаяў на пляцы. Адным словам, усе ў Беластоку дапамагалі людзям, хаця каля гэтага трэба было натаптацца.

З прывезеных матэрыялаў вырашылі пабудаваць памяшканне для настаўнікаў і — другі будынак — на школьнае памяшканне. Будаўніцтвам занялася гміна ў Міхалове. Паставілі зруб аднаго і другога будынка. З пэўнымі цяжкасцямі, але пакрылі. Аднак справа замарудзілася. Мінае ўжо два гады, а будынкі ўсё незакончаны. Брыгада гміны крыху „папрацавала" і ад'ехала. Нібы закончан будынак для настаўнікаў, але тут вучацца дзеці, паколькі другі будынак незакончан. Людзі гавораць, што ніхто з гміны не цікавіцца будоўляй у Круглым Ляску.

Усё гэта выклікае горыч у людзей, псуе выхаваўчую працу настаўнікаў. Маглі б яны ўсе дапамагчы будаўнікам, але каму дапамагаць, калі няма тут арганізатара працы. Расказваюць нават анекдоты (а мо і праўду), як аднойчы прыехаў тэхнік-будаўнік і так падлічыў плошчу патрэбнага на дах этэрніту, што хапіла яго толькі на тры чвэрці будынка.

Актыў вёскі пачаў дабівацца сваіх праў. Гаварылі аб гэтым на канферэнцыі ў гміне. Пасля гэтага прыслалі майстра. Працуе ён тут адзін. Мяшаць мулярскую заправу маглі б і школьнікі, але майстар у гэтым не зацікаўлены, бо ў памяшканні, дзе ён працуе, ляжыць сталярка з ганку і тут цесна. Ганак меў стаяць ля хаты настаўнікаў. Зроблен нават пад яго фундамент. Аднак у гміне вырашылі, што гэта завялікі люкс: хата ды яшчэ з ганкам! А тым часам на няроўнай плошчы фундамента збіраецца вада і падмочвае драўляную падрубу, якая пры такім стане хутка пачне гніць.

У Міхалоўскай гміне размова кароткая. Новы начальнік гміны не ўсюды і не ва ўсе справы паспела „ўвайсці". Аднак запэўніла мяне, што да 25 снежня 1974 г. справа будзе закончана, паколькі падпісана ўмова з новым выканаўцам. За тэрміновае выкананне ўмовы атрымае ён 500 зл. узнагароды. Цень на гэтым аставіла толькі выказванне аднаго з работнікаў гміннага ўпраўлення, які выказаў прэтэнзіі да дырэктара і настаўнікаў школы за тое, што быццам бы яны не цікавяцца будаўніцтвам школы. Не ўваходзячы ва ўсе дробязі гэтага сцвярджэння, хочацца сказаць, што асноўнае заданне настаўнікаў — вучыць і выхоўваць, а за гэта бацькі іх хваляць. За будаўніцтва ж ёсць у гміне адказныя работнікі, якімі людзі якраз надта не задаволены.

Так ці інакш, аўтару сённяшняй публікацыі здаецца, што гэты цень не заслоніць блеску добрай грамадскай ініцыятывы сялян. Веру новаму начальніку Гміннага ўпраўлення ў Міхалове.

**А. Карпюк**

фота аўтара



*Адзін муляр пры тынкоўцы.*



*Новы будынак у Круглым Ляску чакае выкарыстання.*

(Працяг са стар.1)

## ТАМ, ДЗЕ КАНЧАЕЦЦА ПОЛЬШЧА

пачатковага навучання. Цяпер, на жаль, стаіць амаль пустая. У чатырох класах вучыцца ўсяго 26 вучняў. Астатнія 48 вучняў ходзяць у зборную школу ў вёску Рыгалаўка, тры кіламетры ад Ракавіч. Частку школы павятовая камэнда ЗГП ператварыла ў свой склад, а 2 пакойчыкі займаюць настаўнікі Галіна і Язэп Кулакі. Абое землякі, з Дуброўскага павету. Язэп шмат часу прысвячае грамадскай дзейнасці, а Галіна завочна вывучае рускую філалогію ў Беластоку. Дык пытаю яе пра моўныя адносіны ў Ракавічах.

— Тутэйшыя жыхары, — гаворыць настаўніца, — лічаць сябе палякамі, па веравызнанню яны каталікі. Між сабою і дома карыстаюцца беларускай гаворкай. Нават у школе ў час перапынку часам чуваць беларуская мова. Аднак у зносінах з намі, з іншымі чужымі асобамі гавораць толькі па-польску.

У гэтым і я пераканаўся. Калі прабаваў звяртацца да іх на беларускай мове, яны ўпарта адказвалі мне па-польску. Аднак, калі ўжо развітаўся з імі і выходзіў на вуліцу, а яны вярталіся да сваіх дамашніх спраў, тады чуў я беларускую гаворку.

Гэта характэрная рыса для польска-беларускага моўнага і этнічнага пагранічча. Дык сапраўды недзе там, дзе знаходзіцца вёска Ракавічы, — незалежна ад дзяржаўнай мяжы — канчаецца Польшча, а пачынаецца усходняя славяншчына.

**Віктар Рудчык**

## Беларуская літаратура

Аляксандр Баршчэўскі

## Нашаніўская пара

**МАКСІМ БАГДАНОВІЧ — ЧАСТКА XXXII**

**Проза.** Гэты від творчасці пісьменніка не можа быць у ніякім сэнсе параўнаны з яго вершамі. Беларускай прозы пакінуў Багдановіч мала. Аднак выступаюць у ёй істотныя праблемы і таму не можам не прысвяціць ёй пэўнай увагі. Да празаічных твораў Багдановіча залічаем наступныя апавяданні: „Музыка", „Апокрыф", „Апавяданне аб іконніку і залатару...", „Шаман", „Марына", „Гарадок", „Вясной" і апавяданне без загалоўка, якое пачынаецца ад слоў: „Сярод глухой пушчы..."

Не ўсе названыя апавяданні маюць аднолькавую мастацкую і ідэйную вартасць. Да найбольш арыгінальных трэба залічыць „Апокрыф" і „Апавяданне аб іконніку і залатару". Тэматычна звязана з імі таксама апавяданне „Музыка". Не можам, аднак, залічыць яго да сур'ёзных мастацкіх здабыткаў, хаця б з той рацыі, што твор гэты пазбаўлены фабулярнай структуры. „Музыка" нагадвае твор, які быццам жыўцом пачэрпнуты з фальклорных апавяданняў Палесся, сабраных і апублікаваных Сержпутоўскім. Трэба, аднак, сказаць, што „Музыка" — гэта адзін з першых мастацкіх твораў Багдановіча, і цяжка было б ад маладога юнака, якім быў тады пісьменнік, вымагаць мастацкай дасканаласці.

Выключную вартасць, на нашу думку, прадстаўляе апавяданне „Апокрыф". У гэтым творы Багдановіч выкарыстаў біблійную стылістыку, увёў у яго таксама біблійныя постаці Ісуса Хрыста і апостала Пятра.

У чым галоўная вартасць апавядання „Апокрыф"? У тым, што пісьменнік, бадай, першы раз у беларускай літаратуры разважае філасофскую па сутнасці праблему прыгожага і карыснага ў жыцці, праблемы духоўнай і фізічнай стравы для чалавека. Гэтыя істотныя справы разглядае Багдановіч на двух прыкладах, у двух аспектах. На прыкладзе суадносін паміж народным музыкантам і селянінам і адносін між васільком і каласком жыта.

Выступаючы ў апавяданні народны музыкант — гэта сімвал духоўных вартасцей, выступаючыя ў творы сяляне — сімвалы матэрыяльных вартасцей у жыцці; васілёк сімвалізуе прыгажосць, а каласы карысць. Вакол гэтых пастацей і вядуцца ўсе разважанні і размовы паміж Хрыстом і Пятром.

У творы аўтар пытае: ці патрэбен на свеце „дармаед" — музыка тады, калі людзі заняты цяжкай фізічнай працай? Ці патрэбна прыгажосць у форме васілька, калі вядома, што васілёк гэты займае кусочак поля, на якім мог бы вырасці колас?

Аб гэтых праблемах па-рознаму выказваюцца Пётра і Хрыстос. Пётра з'яўляецца прыхільнікам прагматызму і практыцызму. Ён асуджае страву для душы — музыку, калі бракуе людзям стравы для цела. Выступае таксама супраць прыгажосці васілька, які заняў месца ў полі коласу, маючаму матэрыяльную вартасць.

Хрыстос асуджае Пятра і яго погляды. Лічыць ён, што незалежна ад ступені і ўбоства народнага жыцця нельга гэтага жыцця пазбаўляць такіх эстэтычных катэгорый, як прыгажосць. Паслухайма размовы Пятра з Хрыстом:

„Вучыцелю, у гэтай староне ёсць людзі, каторым няма чаго есці. Ці ж не сціснецца ад сораму сэрца гэтага чалавека (музыканта), калі ён да іх (сялян), шукаючы скарынкі хлеба, прыйдзе з песняй сваёй?

І, адказваючы яму, сказаў Хрыстос: так, жыццё гэтых людзей цяжкое, беднае і прыгнечанае. Чаму ж ты хочаш яшчэ і красу адабраць у іх? Мала дадзена ім — няўжо ж трэба, каб было яшчэ менш?"

У гэтым апавяданні ставіць Багдановіч яшчэ адну істотную праблему. Датычыцца яна характару мастацкай творчасці, якую ў даным выпадку сімвалізуе зноў песня.

Пётра даказвае Хрысту, што ў песні заўсёды павінен дамінаваць акрэслены слушны змест, бо гэты змест акрэслівае вартасць песні. Хрыстос прытрымліваецца фармалістычных крытэрыяў у ацэнцы мастацтва. Лічыць ён, што прыгажосць формы мастацкага твора акрэслівае яго вартасць. Такім чынам, змест, на яго думку, адыгрывае ў творы другарадную пазіцыю:

„І прамовіў Хрыстос Пятру: Ты, шкадуючы долі галодных людзей, асудзіў песню, але галодныя людзі не асудзілі яе. Жыва яшчэ душа ў народзе гэтым.

Тады ізноў сказаў Пётра: але няхай жа ў песнях будуць і думкі добрыя і паўчаючыя, каб, апроч красы, меўся ў іх і спажытак чалавеку.

І адказаў яму Хрыстос: Няма красы без спажытку, бо сама краса і ёсць той спажытак дзеля душы".

У такім самым аспекце вядзе Багдановіч разважанні аб васільку і коласе. Хрыстос не асуджае васілька. Лічыць яго прыгажосць не менш патрэбнай чалавеку, чым матэрыяльную вартасць коласа. Нават больш узвышае вартасць васілька, бо бачыць у ім духоўную страву для чалавека. Вось словы Хрыста:

„Я ж гавару вам: добра быць коласам, але шчаслівы той, каму давялося быць васільком".



 

 



ФОТА ПА ЗАКАЗУ STAN BORYS

*Заказвала Ніна Єац з Беластока.*




**Дарагое „Сэрцайка“!**

Можа і здзівішся, „Сэрцайка“, але ў мяне дзве мамы. Першая мяне нарадзіла і выхоўвала да шасці год, гэта значыць, пакуль жыў мой бацька. Пасля смерці бацькі мама аддала мяне да цёткі — бацькавай сястры. Яна дзяцей сваіх не мела. Мама спачатку наведвала мяне. Памятаю, як бегла я за ёю і плакала, калі ад'язджала. Візіты яе былі, аднак, штораз радзейшыя, штораз менш бачыла я маму. І ўрэшце перастала прыязджаць зусім. А цёця была вельмі добрая. Прывыкла я да яе і ўжо не сумавала за мамай. Цёцю і дзядзю называю я мамай і татай. Вучуся ўжо ў сярэдняй школе, і вельмі цешацца яны маімі добрымі ацэнкамі, памагаюць як умеюць, калі ў мяне ў навуцы нешта не ладзіцца. Калі паеду на канікулы ў лагер, дык дачакацца не магу, калі вярнуся да іх. А яны таксама здалёк мяне вітаюць і цешацца. Ужо і не думала пра першую маму, але вось нядаўна, амаль праз дзесяць гадоў маўчання, напісала яна ліст з далёкага горада. Пісала, што сумуе за мной і хацела б забраць мяне да сябе. Яна адзінокая, замуж не выйшла. А пасля і сама прыехала. Але яна мне зусім чужая, гэта ўжо не тая мама, па якой я калісьці плакала і сумавала. Ды і мая другая мама не хоча мяне аддаць. Расплакалася, прытуліла мяне і сказала, што не аддасць. Першая мама аднак цвёрда гаворыць, што я яе дачка, што гэта яна мае на мяне права, бо яна мяне нарадзіла. „Сэрцайка“, ці я мушу да яе ісці?

**Валя з Беластока**

**Валя!** Кажуць, не тая мама, што нарадзіла, але тая, што выхавала. Вярнуцца цяпер табе да першай мамы — гэта пакрыўдзіць і сябе і маму другую, так як вас спалучаюць мацярынскія пачуцці. Шкада і першай мамы. Не вядома, што было прычынай, што пакінула яна цябе ў цёці. Мо, аўдавеўшы, не мела ўмоў, каб цябе выхоўваць? Напэўна не ўяўляла тады, што стане яна чужой свайму дзіцяці. А ўсё ж, бадай, найлепш было б, каб асталася ты на месцы. Гэта на карысць і табе і другой маме. А першай дазволіць цябе наведваць, каб не адчувала, што страціла зусім сваё дзіця. Вось так, як бы мела, як пішаш, дзве мамы.

**„Сэрцайка“**

Куток практычных ведаў




## Венерычныя хваробы пагражаюць надалей

Статыстыка сцвярджае, што колькасць хворых венерычнымі хваробамі ўзрастае. Зразумела, адносіцца гэта да ўсяго свету, аднак нас непакоіць больш за ўсё тое, што гэтыя хваробы пашыраюцца і ў нас, а асабліва балючым з'яўляецца факт, што 60 працэнтаў хворых — гэта моладзь. Хвароба пашырылася таксама на вёску.

Небяспека крыецца перш за ўсё ў тым, што людзі не здаюць сабе справу з таго, як лёгка можна заразіцца гэтай хваробай. Сустракаюцца нават людзі, якія наіўна лічаць, што антыканцэпцыйныя сродкі ахоўваюць перад заражэннем венерычнымі хваробамі. Усе маткі, а асабліва члены гурткоў вясковых гаспадынь, павінны пастарацца, каб даць моладзі літаратуру на гэтую тэму, павінны арганізоўваць таксама лекцыі і даклады на гэтую тэму.

Венерычныя хваробы з'яўляюцца тым больш небяспечнымі, што ў большасці выпадкаў хворы не адчувае ніякага болю, а першыя прызнакі амаль невідочныя. Напрыклад, першыя прызнакі сіфіліса, што выступаюць каля шасці тыдняў пасля заражэння, гэта толькі небалючыя нарыўчыкі. На дадатак праходзяць яны праз нейкі час нават без лячэння. Аднак праз дзевяць тыдняў выступаюць далейшыя прызнакі і хвароба развіваецца. Калі яе не лячыць, здароўе можна цалкам зруйнаваць.

З выгляду нявінны трыпер (жэжончка), калі гэтай хваробы не лячыць, таксама вядзе да цяжэйшых захворванняў, а мужчыны могуць стацца нават бясплоднымі. У жанчын пачынаецца яна нават нявінна — гнойнымі белямі і пячэннем у час мачэння. Таму неабходна ведаць: кожны падобны прызнак павінен быць сігналам да таго, што неабходна звярнуцца да доктара.

Лячэнне венерычных хвароб з'яўляецца для ўсіх бясплатным, вядуць яго ўсе скурна-венерычныя клінікі, у іх не абавязвае раёнізацыя і, такім чынам, можна звярнуцца ў кожную, нават найдалейшую ад месца жыхарства. Апрача таго, дактароў і ўвесь медыцынскі персанал абавязвае захаванне таямніцы.

Найважнейшай справай у лячэнні венерычных хвароб і іх прафілактыцы з'яўляецца якраз усведамленне грамадства. Таму перш за ўсё трэба пераконваць людзей, што павінны быць вельмі асцярожнымі. бо што тут шмат гаварыць: заражэнне наступае ў асноўным пры палавых зносінах. Пры найменшых падазрэннях трэба як найхутчэй звярнуцца да доктара. Прыманне пеніцыліна ці іншых антыбіётыкаў „на ўласную руку“ не ліквідуе хваробы. Лячэнне павінен правесці доктар-спецыяліст.

**Эскулап**

## ВАДА, ВАДА...

*„Калі ёсць вада і хлеб-соль да вады, дык няма ўжо бяды“*, — калісьці пастаянна паўтараў мне бацька.

Гэтая пагаворка прыпомнілася мне ў час нядаўняй паездкі па вёсках Гайнаўшчыны. Так, гэта праўда: без вады няма жыцця. Адпак, калі вады замнога... Дажджлівае лета, восень і зіма падбавілі яе нам намнога больш, чым трэба. Ледзь прыкметныя ручайкі пераўтварыліся ў бурлівыя рэкі, невялікія лужыны разліліся ў прасторныя, небяспечныя азёры... Вада затапіла лугі і сенажаць, заліла ніжэйшыя палі і пасевы. У ямах і паграбах гніе падмоклая бульба...

*„Ой, бяда, бяда, калі ідзе вялікая вада“*, — прыпомнілася мне іншая народная пагаворка. У гэтай бядзе нашы сяляне не асталіся бездапаможнымі. У пачатку снежня была ў вёсках праведзена ацэнка стану навадненне, і гаспадары атрымалі аднаразовую грашовую кампенсацыю, велічыня якой дасягала дзвюх з палавінай тысяч злотых ад аднаго га. Вядома, гэтая сума не пакрые ўсіх затрат ад вялікай паводкі, аднак усё ж...

Тэкст і фота **В. Рудчыка**



*Вёска Лушча ў Гайнаўскім павеце. Вада заліла цэлы луг і падыйшла ўжо пад вулічны плот.*




— Пойдзеш у трыбунал! — змрочна сказаў Петухоў.

— Завошта? — ціха, пра сябе спытаў ён кагосьці, хто не мог адказаць яму, і выкрыкнуў мацней: — Завошта?

Але зноў яму ніхто не адказаў — ні Петухоў, ні ротны Арлавец, які, сцяўшы кашчавыя надброўі, змрочна глядзеў убок, ні аўтаматчыкі, што пасталі на абрыве скрозь па ўсім схіле і напружана сачылі за ім. Тады ён скалануўся, зразумеўшы, што пастка за ім назаўжды закрылася.

— Завошта? Завошта? — закрычаў ён, ледзьве трымаючыся на голым крутым абрыве. — Завошта? Капітан, скажыце?

— Ладна, Клімчанка! Разбяруцца, — нязлосна сказаў Арлавец, зрабіў крок насустрач, але тут жа павярнуўся назад і стаў убаку ад Петухова.

„Разбяруцца!“ Ён ужо ведаў, як гэта часам разбіраліся. Да таго ж ён убачыў, як Петухоў, прыўзняўшы пісталет, зняў курок з ахоўніка.

Клімчанка павалі апусціў рукі, аўтамат на почапцы дзеўбануўся аб зямлю, і лейтэнант упершыню ўсвядоміў яго цяжар. У той час — мабыць, таксама ўпершыню — ён выразна адчуў, што надзеі ўсе абарваліся і што ўсё назаўжды скончана.

— Ты перамог, сволач! — сказаў ён, бачачы перад сабой загадкава-ледзяныя вочы Шварца-Чарнова. Сказана гэта было зусім ціха, але ў той цішы, што запанавала ў рове, яго ўчулі, і Петухоў крыкнуў гучней — нецярпліва і пагрозліва.

— Узяць яго!

Два прыведзеныя ім з каменданцкага ўзвода байцы нехаця палезлі на абрыў; бачна было, што яны прыкметна баяліся і ўвесь час засцярожліва паглядалі на лейтэнанта. Лезці было нязручна, хлопцы коўзаліся і падалі, абапіраючыся на рукі. Клімчанка, нібы стараючыся нешта вырашыць і баючыся, што не паспее зрабіць гэта, нягучна прыкрыкнуў:

— Стой!

Байцы, не далезшы якіх дзесяці крокаў, спыніліся; адзін апусціўся на калена, другі стаяў, шырока адставіўшы ўбок нагу. Клімчанка трохі ведаў іх, калісьці ў Дворышчах яны разам адбівалі нямецкую атаку, ратавалі штаб палка і палкавы сцяг, які тады ледзьве не трапіў да немцаў. Па пакутлівых выразах курносых твараў было відаць, што хлопцам вельмі непрыемна ўвязвацца ва ўсю гэтую справу. Да таго ж, відаць, яны пабойваліся яго.

— Стой, хлопцы! — мякчэй сказаў Клімчанка. З нейкага нядаўняга часу ён пачаў спакайнець і чым далей, тым усё выразней разумеў, што адбываецца і што трэба рабіць. Гэта надало яму ўпэўненасці і душэўнай зладжанасці — здольнасці праз сілу перамагчы штосьці непераможнае ў сабе. Але ў гэты час Петухоў яшчэ нешта крыкнуў байцам і, трымаючы на вынасе пісталет, хуткім крокам пайшоў да абрыву.

За ім ступіў Арлавец.

— Пастойце! Вы што? У мяне ў дзевяць ноль-ноль атака! Вы ўлічваеце або не?

Петухоў не зірнуў на ротнага.

— Трыбунал усё ўлічыць! — пагрозліва прагучала ў трывожнай цішыні рова, і ў грудзях у Клімчанкі нешта безнадзейна заныла. На хвіліну ў ім бліснула і згасла міжвольна ўдзячнасць к ротнаму. Але тут жа з'явілася думка: „Не трэба! Не ўпрошвай! Бескарысна!“

Петухоў далез да крайняга байца і з зацятай суровасцю на мясістым твары штурхнуў яго ў каршэнь. Хлопец упаў на калені, устаў і палез вышэй. І ў той час Клімчанка незвычайна абвостраным разуменнем адчуў сапраўдны, непазбежны, вялікі канец.

Каб не раздумаць, не даць у сабе аслабнуць чамусьці, як здалося яму, гранічна яснаму і адзіна магчымаму, ён перахапіў рукою аўтамат і ягоным нібы спецыяльна скошаным для таго дульным зрэзам ткнуў сабе ў грудзі.

— Стой! З глузду з'ехаў, ці што?!

Нехта з сілай ірвануў яго за локаць. Лейтэнант азірнуўся — то быў Галанога. Тады ў нейкім секундным праясненні Клімчанка зірнуў на сябе збоку і збянтэжыўся.

Сапраўды: гэта было куды як недарэчна, нават агідна — забіць сябе, калі ўжо цябе не забілі немцы. Марудна выспеўшая рашучасць была зрушана. Але што ж рабіць? Як быць далей? Лейтэнант выпусціў аўтамат, які цягнуў да сябе Галанога, і разгублена азірнуўся — на схіле рова, трывожна ўставіўшыся ў яго, стаялі байцы.

Ён так нічога і не вырашыў, як раптам недзе за ровам гулка ўдарыла ў паветры — раз і другі. У хмарным небе над галовамі аўтаматчыкаў з тугім шорхатам прайшлі снарады. Крэкнуў-



 

# ТРЫБУНА чытачоў

## Вуліца ў Ласінцы

Ласінка — вёска вялікая. Была тут грамадская рада нарадовая. Цяпер ёсць цэнтр здароўя, бібліятэка, васьмікласная школа, пошта, дзве крамы ГС-у, клуб, стражацкая раміза, малачарня, царква і МБМ.

У Ласінку прыязджаюць жыхары суседніх вёсак, каб тут уладжваць розныя справы, а вечарам навакольная моладзь збіраецца ў клубе.

Дарогі, якія вядуць у Ласінку, добрыя: ад Рэпіскаў — брукаваная, ад Катлоўкі — смалоўка, хоць каціся па ёй, ад Кутавой — добрая жвіроўка, ад Гарадзіска — крыху горшая жвіроўка. Ды адной магчымасці не выкарысталі былыя ўлады ГРН у Ласінцы — не зрабілі вуліцы ў вёсцы.

А вуліца тут — проста бяда. Так разбіта пасярэдзіне вёскі, што цяжка праехаць. На працягу аднаго кіламетра патрэбна тут абавязкова поўная перабудова вуліцы.

Просьба да начальніка гміны ў Нарве: памажыце Ласінцы адрамантаваць вуліцу ў новым годзе, жыхары Ласінкі таксама памогуць.

**Раса**

## Бібліятэка ў Мокрым

У Мокрым ёсць бібліятэчны пункт. Змяшчаецца ён у хаце адной жанчыны. Многа маладых чытачоў прыходзіць сюды за кніжкамі. Кніжкі цікавыя — польскія, рускія і беларускія.

**Ян Нікіцюк**




### НА БЕЛЬСКАЙ ГАВОРЦЫ

* ✲ *

колёровы сны мої
в іх завэршэне думок
ознака жыця моёго тіэла
кохае нэ хочэ
брыдка хороша найхоруошча
о матчыны очы
займіэтэ свое давнійшэ міэсце
мамо даліčіэнь до вас
жыты ніэ могу далей так
сном жыты
мамо вуона тэбэ прыкрыла
туманом прыкрыла
мало всё для йызй мало
мамо
о
нэ трэба так муоцно влюблятыся

* ✲ *

Колісь знов заклічу тэбэ
здалека тэбэ заклічу
Откажэ мніэ гаснучы дэнь
што вжэ давно ты нэ чыкаеш
Колісь знов прысняцця мніэ
огеньчыкі в очах, што сміюцця
Прыпомніш мніэ осіэнні віэтёр
што другі вжэ в іх дывіцця
Которэсь пісьмо затрымаеш і
вэрнутыся схоч
Запуозно вжэ

**Юрка Хмялеўскі**
**Варшава**

## Як чытаем „Ніву"?

Як карэспандэнту „Нівы", ляжыць мне на сэрцы тыраж нашай газеты.

У 1972 г. пісьманосцы Гайнаўшчыны даручылі чытачам 14.673 экз. газет, у тым „Нівы" 2.000 штук. У 1973 г. усіх газет было даручана 13.994, у тым ліку „Нівы" — 2.160. Найбольшы паказчык быў у першай палове 1974 г. — усіх газет 14.956, а „Нівы" — 2.300 экз. Летам паказчык „Нівы" знізіўся на 300 штук і да сёння не выраўняўся. На месяц лістапад даручана „Нівы" 1960 штук, а колькі на якой пошце, пакажа табліца:

| | 1973 | 1974 XI |
|---|---|---|
| Белавежа | 18 | 15 |
| Чыжы | 176 | 123 |
| Дубіны | 105 | 122 |
| Кляшчэлі | 98 | 56 |
| Ляўкова | 117 | 108 |
| Нараў | 120 | 134 |
| Новаберазова | 116 | 120 |
| Палічна | 70 | 43 |
| Стары Корнін | 220 | 226 |
| Чаромха | 34 | 16 |
| Дубічы | 200 | 136 |
| Гайнаўка | 14 | 13 |
| Клейнікі | 178 | 159 |
| Ласінка | 171 | 160 |
| Нараўка | 178 | 195 |
| Арэшкава | 92 | 109 |
| Семяноўка | 144 | 120 |
| Трасцянка | 106 | 106 |

Каб „Ніва" спаўняла сваю ролю, павінна трапіць як найшырэй да людзей. У гэтым памагчы павінны пісьманосцы, да якіх звяртаюся сардэчна: распаўсюджвайце „Ніву".

**Э. Вайсковіч**

## БАСЕЙН

У вёсцы Елянка Гайнаўскага павету нядаўна быў аддадзены ў карыстанне супрацьпажарны басейн. Будаўніцтва яго распачалося яшчэ вясною грамадскім чынам жыхароў вёскі. Для больш адказных прац быў наняты майстар з Гайнаўкі — Ян Пятровіч, якому таксама многа памагалі мясцовыя жыхары: Аркадзь Казімерук і начальнік тутэйшай пажарніцкай аховы — Мікалай Нікіцюк.

Месца на басейн жыхары вёскі выбралі вельмі зручнае — там дзе ад вякоў б'е крыніца, з якой свае воды нясе невялічкая рэчка. Яна плыве каля самай вёскі і далей да суседняй — Чэх Арлянскіх.

Басейн вялікі. Яго сцены і месца навокал вылажаны бетоннымі пліткамі. Абгароджаны драцяной сеткай. Люба паглядзець! Вады тут ніколі не забракне. Такі басейн у вёсцы — рэч вельмі карысная. Тым больш у гэтай вёсцы, якая ў сваёй гісторыі часта гарэла. Лепш, праўда, не карыстацца такой вадою, але ў жыцці па-рознаму бывае.

**М. Панфілюк**

## ДОБРАЯ РАБОТА

У № 45 „Нівы" на 5 старонцы — фота Р. Сянько „Кааператыўны банк у Крынках". Перабягаю вачыма старонку, шукаю тэксту. На жаль, няма. А шкада, бо пра кааператыўны банк у Крынках ёсць што напісаць.

Чым жа славіцца гэты банк? А вось чым. Там ніколі няма доўгіх чэргаў, як гэта назіраецца ў іншых установах падобнага тыпу, а рух у Крынках вялікі, пераважна ў торговыя дні. Не раз задаю сабе пытанне: як яны так патрапяць? Адказ адзін: добры калектыў. Усе акуратныя, усе выконваюць свой абавязак дысцыплінавана і добрасумленна.

Дырэктарам банку ў Крынках з'яўляецца энергічны жыхар Крынак — Яўген Калінскі.

Пры нагодзе варта пахваліць яшчэ адну ўстанову. Гэта крынкаўская пякарня. У газеце „Хлопска Дрога" на старонцы сатыры і гумару Гіпаліт Лісоўскі напісаў:

„Ёсць хлеб лэнчыцкі, лодзінскі,
вроцлаўскі,
Ёсць беластоцкі, гданьскі і
варшаўскі...
А нам трэба
Добрага хлеба!"
(Пераклад мой — дзядзькі
Кастуся).

Вось такі добры хлеб выпякае крынкаўская пякарня. Ядуць жыхары Крынак і навакольных вёсак гэты хлеб і хваляць пякарню. Сапраўды, хлеб і тыя, што яго выпякаюць, варты пахвалы. Раю кожнаму, хто праязджае праз Крынкі, спрабаваць свежанькага крынкаўскага хлеба.

Кіраўніком крынкаўскай пякарні з'яўляецца жыхар Крынак Норберт Дудзінскі.

Ёсць у Крынках яшчэ ўстановы, якія варты пахвалы. Але аб іх напішам іншым разам.

**Дзядзька Кастусь**

## КАНТРАСТЫ

У суботу 23.11.74 г. амаль у кожнай мясцовасці адбываліся традыцыйныя забавы. Такая забава была арганізавана і ў Чаромсе, у мясцовым рэстаране. Гулялі працаўнікі гайнаўскага ПЗГС (усіх ГС-аў). Рэстаран быў зарэзерваваны на баль з самага вечара. Усе тры залы. Прыемна было гуляць праўленню гайнаўскага ПЗГС у Чаромсе. Шкада толькі, што гандлёўцы задбалі пра сябе, а забыліся пра іншых людзей.

У гэты вечар падарожны не мог купіць сабе куска хлеба. А чыгуначнікі, якія працавалі ў гэтую ноч (некалькі дзесяткаў чалавек) на станцыі, павінны былі есці каля дзвярэй на калідоры рэстарана, стоячы. Мала таго. Трэба было чакаць больш, як паўгадзіны часу, бо афіцыянткі хацелі паслухаць прыемных гукаў аркестра. І ўявіць сабе, даражэнькія, два вобразы, два кантрасты: у залах рэстарана гуляюць гандлёўцы, а на калідоры стаіць знерваваны чыгуначнік з шклянкай чаю ў руцэ. Ці так быць павінна?

**(к-ус)**

## У гайнаўскім ЛЗС

Гайнаўскі павет налічвае каля 50 гурткоў ЛЗС. Некаторыя з іх дабіліся добрых вынікаў у працы. Гэта гурткі ў Навасадах, Нарве, Нараўцы, Старым Корніне. Яны знаходзяцца ў пастаянным кантакце з павятовым саюзам ЛЗС у Гайнаўцы. Грашовую дапамогу аказваюць ім праўленні гмін. Сёлета праўленне гміны ў Дубічах Царкоўных купіла моладзі гурткоў ЛЗС у сваёй гміне спартыўныя прылады — мячы, турыстычныя сумкі, камплекты для тэніса, шахматы.

Найбольшымі актывістамі павятовага саюза ЛЗС з'яўляюцца Канстанцін Філімановіч, Мікалай Асіпюк, Адам Цэха і Вера Леўчук.

**Ружа**

## Хто будзе ладзіць?

Людзі з навакольных вёсак ведаюць гасцінец, які вядзе ў Бельск Падляшскі і ўваходзіць у Дубяжынскую вуліцу. Кожны сюдою ездзіў у горад. А што робіцца цяпер?

У 2 км перад Бельскам дарогу сапсавалі машыны. Цяпер там нельга праехаць. Людзі вымушаны пхацца на шашу, якая знаходзіцца ў Кнарыдах.

У людзей перад зімой многа спраў у горадзе. Трэба прывезці вугаль. Трэба завезці збожжа, свіней, цялят. Ці ж абавязкова людзям рабіць такі круг? Ці не лепш было б проста наладзіць дарогу як найхутчэй? Што на гэта дарожныя ўлады?

**Смелы**

### ДРОБНАЯ РЭЧ, А ЛЮДСКАЯ

Рэдка мне даводзіцца чытаць газету на роднай беларускай мове. Не заўсёды магу купіць яе.

Прыемна чытаць пра добрыя ўчынкі і дасягненні родных мясцін. Між іншым, у „Ніве" з 17 лістапада пісалася пра „Сонца для Гайнаўшчыны". У артыкуле гаварылася пра даволі высокія паказчыкі ў выкананні плана па продажы мінеральных угнаенняў. Гэта вельмі добра сведчыць пра сялян. Вось і я хацеў бы сёння звярнуць увагу на пэўную справу, калі рэч ідзе аб продажы.

Будучы дома, павёз з бацькам на пункт скупкі бульбу, а потым планавалі купіць мінеральныя ўгнаенні. З бульбай не было цяжкасцей, затое з угнаеннем, не выйшла так, як павінна. Бацька мой заўсёды, калі мае штонебудзь купляць, адразу стараецца ўсё патрэбнае падрыхтаваць дома, каб потым не трэба было чаго шукаць. Але на гэты раз мяшкі то бацька палічыў, але завязак да іх — не. Узяў проста з сабою пучок завязак, думаў, хопіць. Памыліўся на дзве. І тады пачалося. Падыйшоў я да рабочых, якія насыпалі ўгнаенні і завязвалі. Завязак у іх было шмат. Папрасіў я дзве. Рабочы адказаў, што ён тут не заведуе. Пытайся, маўляў, магазінера, калі той пазволіць, дам. Падыйшоў я да магазінера — пана Кірылюка і прашу тымі самымі словамі даць дзве завязкі. Адказ быў такі: „У мяне завязак няма, калі вам так трэба, ідзіце і купіце катушку шпагату, такіх, як вы, знайшлося б многа.

Разумею, калі б я прасіў некалькі дзесяткаў завязак, можна так адказаць. Але сам пан Кірылюк бачыў, што мне забракла дзве. Ці сапраўды не мог даць? Бацька прасіў хоць пазычыць, казаў аддасць больш. А пан Кірылюк ўвогуле не захацеў гаварыць. Ці ёсць чалавек, які ў такім выпадку не хваляваўся б, тым больш, што дома чакала поўна працы.

Гэтым маім пісьмом хачу звярнуць увагу на нібы дробныя справы. Дробныя, ды людскія.

Я згодны, што ёсць многа важнейшых спраў і не ўсё адразу можна зрабіць. Але наколькі лягчэйшым было б жыццё людзей, калі б чалавек да чалавека адносіўся ветліва і сардэчна.

**Мікалай Мароз**
Вроцлаў

### ХУЛІГАНЫ Ў ПАЧАКАЛЬНЯХ ПКС

На прыпынках ПКС будуюцца будкі, званыя пачакальнямі. Бяда аднак, што хуліганы не дадуць, каб гэтыя будкі-пачакальні стаялі ў парадку. Невялікае ўжо дзіва, калі дзесьці на полі пабіты дах у пачакальні, знішчаны лавачкі, на сценах панамазвана абы-што. Але і ў нашых гарадах робяцца падобныя рэчы. Напрыклад, у мястэчку Супрасль каля Тэхнікума механізацыі сельскай гаспадаркі ёсць прыпынак ПКС. Ён без сцен, толькі са шкляным дахам. А гэты дах разбіты ўдрабязгі. Людзі, што едуць з працы ці са школы ў напрамку Крынак, Саколкі, Беластока, чакаючы аўтобуса, не маюць дзе схавацца ад дажджу. Клянуць хуліганаў і наракаюць на дрэннае выхаванне моладзі.

Цікавы выпадак можна ўбачыць і ў Саколцы. У цэнтры горада на пляцы Касцюшкі насупраць царквы, блізка камендатуры МО ёсць прыпынак ПКС і пачакальня. Пачакальня разбіта, а людзі стаяць на дажджы і ветры. Памойму, гэтай справай павінны заняцца адказныя ўлады.

**Т .К.**




**Дзям'ян Самайлюк.** Сатырычны ваш твор надрукуем.

**Юрка Хмялеўскі, Варшава.** У гэтым жа нумары — ваш дэбют. Іншыя вершы таксама надрукуем. Увогуле — добра! Калі ласка, пішыце больш выразна — гэта вельмі важна пры дыялектнай мове.

**Мікола Краўчук.** Вершаваны адказ Ярашу надрукуем неўзабаве.

**Ян Нікіцюк.** Верш „Шчасце" надрукуем. Той другі, які хочаце падпісаць псеўданімам, таксама. Па зместу — другі лепшы.

NIWA 15-950 Skr. poczt. 149 Białystok, ul. Wesołowskiego 1. TELEFON 2-32-41. PRENUMERATA: Oddziały „Ruchu", urzędy pocztowe i listonosze. Wydawca RSW „Prasa—Książka—Ruch" Indeks 36811.

шы, яны разарваліся на вышыні. Праз некалькі хвілін павінна была пачацца атака.

Арлавец таропка зірнуў на гадзіннік у рукаве і рашуча ступіў да Петухова.

— Ты вось што! Канчай!

Петухоў недаўменна азірнуўся.

— Вы што?

— А нічога! Уматвай да д'ябла! У мяне атака! — змрочна сказаў Арлавец і, не чакаючы адказу, зычна падаў каманду: — Камандзіры ўзводаў, па мясцах!

— Ах, так! — крута павярнуўся да яго Петухоў. — Пакрываеш? Каго пакрываеш, падумаў? Ты адкажаш за гэта!

— Ну і адкажу! — цераз плячо кінуў Арлавец. Відаць было, ён ледзьве стрымліваў сябе і ў іншы час не стрываў бы такога ўмяшання ў справы роты. Але цяпер у роце было ЧП, і тут шмат у чым ён адчуваў сябе звязаным.

Арлавец зноў зірнуў на гадзіннік і тужэй падцягнуў дзягу на сваім паўшубку. Пасля, нібы толькі заўважыўшы на схіле панылa-разгубленага Клімчанку, з клапатлівою строгасцю прыкрыкнуў на яго:

— Чаго стаў? А ну, марш да ўзвода!

Клімчанка збянтэжыўся яшчэ болей — такім нечаканым здаўся яму гэты, па сутнасці такі звычайны, загад. Лейтэнант недаўменна зірнуў на Арлаўца: ці да яго той звяртаецца? Але памылкі не было — ротны загадваў яму; сказаў і пайшоў па ручаіне ўгору, на сярэдзіну ланцуга, нібы адразу забыўшыся і на яго, і на Петухова, які з помслівай зацятасцю ішоў прэч па рове.

З гулкім сэрцам у грудзях Клімчанка павярнуўся да ўзвода.

На вышыні грымелі выбухі, угары ў хмарным сакавіцкім небе люта верашчала і выла. Байцы дакурвалі цыгаркі і, ахопленыя новым клопатам, таропка разбягаліся ў ланцуг па краю рова. Лейтэнант таксама ўлез па абрыву наверх і лёг між байцамі. Яшчэ не верачы, што ўсё абышлося, што самая вялікая бяда мінулася, і прадчуваючы наперадзе труднае, ён марудна спакайнеў.

Між тым часу ў яго было небагата, камандзіры ўзводаў у ланцугу падавалі ўжо каманды.

Тады і ён, прыўзняўшыся на краі абрыву і некалькі больш гучна, чым было трэба, дрыготкім ад хвалявання голасам крыкнуў:

— Узвод, падрыхтавацца да атакі!

Нехта сунуў яму аўтамат, нехта паспешна скінуў з сябе і аддаў яму ватоўку. З нямою ўдзячнасцю ў душы лейтэнант прыняў усё гэта і азірнуўся. Некалькі ўбаку над абрывам узнялася прыземістая постаць Арлаўца. Ротны дастаў з-за пазухі пісталет і, узмахнуўшы ім, выскачыў з рова.

Рота аўтаматчыкаў пачынала атаку.

